НАША СВАБОДА

№54 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

1 ВЕРАСНЯ 2000 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ





# Вид на большую помойку

Александр ДУБРАВИН

Чем ближе выборы в «палатку», тем больше истерии по поводу международного признания их результатов и участия в них консолидированной демократической оппозиции. Последнее время истерия растет в геометрической прогрессии, как снежный ком, что, вероятнее всего, связано с попытками властей и ангажированных ими средств массовой информации (в том числе и с демократическим имиджем) нелепыми базарными криками, ложными логическими посылками и давлением на психику заглушить здравые возражения АБСЕ, международной общественности и конструктивных кругов оппозиции. Аргументы противников выборов публично не обсуждаются, но подменяются голословными утверждениями, односторонней информацией, вольной интерпретацией и эмоциональными женскими оценками. Информирование читателей превращается в голую пропаганду. Например, в ангажированных газетах регулярно публикуются сфабрикованные «письма читателей в редакцию», в которых авторы активно поддерживают выборы. Это делается для создания иллюзии сформировавшегося общественного мнения. Для создания видимости массового исхода оппозиции в «палатку» называются фамилии людей, которые и не собирались выдвигать туда свои кандидатуры. Для создания впечатления слабости оппозиции раздуваются «конфликты» внутри тех партий, которые бойкотируют выборы. Вместе с тем замалчиваются конфликты внутри «легших» под власть партий и т.п. Расчет, по-видимому, идет на то, что опорный лагерь демократических сил спустя некоторое время будет дезориентирован, обескровлен, расколот перебежчиками, провокаторами, руганью, претензиями, завистью и недоразумениями. Что на каком-то этапе неизбежно включится принцип «колхозного стада» и оппозиционеры побегут регистрироваться в «палатку», давя друг друга.




Есть в футболе приём, который называется «стенка»: спортсмены заслоняют своими телами ворота от мяча. В момент построения «стенки» соперники внедряются в нее, а в момент удара по мячу разбегаются в разные стороны, увлекая за собой других. Нечто подобное попытались сделать нынче, накануне выборов, и внедренные в ряды оппозиции провокаторы спецслужб. Мы всегда стыдливо обходим этот вопрос, полагая, что акцент на нем может обидеть некоторых наших товарищей по борьбе с режимом, каких-нибудь нервных и впечатлительных дам из «общественности», или что кто-то нас посчитает недостаточно интеллигентными людьми и т.д. Между тем провокаторы, как и секс, существовали всегда. И уж, тем более, сейчас, когда так много поставлено на карту. Политические и общественные организации особенно уязвимы перед провокаторами в силу своей открытости и доступности. Некий дядя, скажем, активно участвует в работе политической организации. Он старается пробиться в руководство этой организации, делает иногда кое-что полезное для ее развития, а сам тем временем воображает себя Штирлицем и пишет банальные доносы по месту основной работы. Взамен получает небольшие, но регулярные, иудины подношения, инструкции, выполняет разного рода поручения, запускает слухи, ссорит партнеров, что-то имитирует и т.д. Человек слаб, жаден и грешен, кто в этом виноват?

В прежние времена этот сценарий сработал бы безупречно, потому что сам по себе он неплох: достаточно профессионален, детально просчитан. Он готовился и обсуждался задолго до старта, был щедро профинансирован. Он уверенно, цинично и нагло внедрялся и внедряется в подсознание граждан, совершенно непривычных к такого рода давлению. К нему плотно подключились лучшие умы лукашенковских и российских спецслужб (Примаков здесь недавно был с инспекцией). Стараются и другие способные люди, не отягощенные моральными принципами. Однако этот сценарий неожиданно для авторов стал давать системные сбои. Более того, возникла реальная угроза засветиться не только провокаторам, но и его многим тайным пружинам, что, согласитесь, можно будет считать провалом.

Почему? Вот пусть над этим и задумаются компетентные товарищи. Им за это деньги платят. ■

# Апазіцыя пераканала Еўропу – наглядальнікі не прыедуць

Рыгор БУЯН

**Трэцяя тэхнічная канферэнцыя АБСЕ, якая прайшла 30-31 жніўня ў Вене пры ўдзеле іншых міжнародных арганізацыяў, расставіла ўсе кропкі над «і» ў «беларускім пытанні». Насуперак жаданням правячых колаў Беларусі дабіцца прыезду міжнародных наглядальнікаў на асеннія выбары ў палату прадстаўнікоў, Еўропа прыняла зусім іншае рашэнне – накіраваць на выбары толькі тэхнічную місію.**

У прынятым 30 жніўня дакуменце – «Вынікі і рэкамендацыі Трэцяй тэхнічнай канферэнцыі» – гаворыцца: «Прысутнасць тэхнічнай ацэнкі місіі Парламенцкай Тройкі і Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека АБСЕ (БДІПЧ) падкрэслівае палітычную значнасць таго, што Еўропа далучаецца да развіцця і кансалідацыі дэмакратыі ў Беларусі. Іхняя прысутнасць у Беларусі з нагоды парламенцкіх выбараў не азначае міжнароднага прызнання дэмакратычнага характару і вынікаў працэсу парламенцкіх выбараў».

У чым жа розніца паміж наглядальнікамі і тэхнічнай місіяй? Якія магчымыя наступствы для Беларусі цягне рашэнне Венскай канферэнцыі? За тлумачэннямі НАША СВАБОДА звярнулася да былога намесніка замежных справаў Беларусі, міжнароднага каардынатара Хартыі'97 **Андрэя САННІКАВА**.

***— Андрэй Алегавіч, Трэцяя тэхнічная канферэнцыя міжнародных арганізацыяў прыняла рашэнне дасланы на восеньскія выбары не наглядальнікаў, а тэхнічную місію. Калі адсыцi ад тонкасцей дыпламатычнай мовы, то ў чым заключаецца сутнасць рашэння міжнароднай супольнасці?***

— Тут якраз-такі адыходзіць ад тонкасцяў і не варта. Прынятыя 30 жніўня ў Вене рэкамендацыі досыць супярэчлівыя. Калі ў краіне ўсё нармальна – дасылаюцца наглядальнікі. Калі ж у краіне не ўсё нармальна – прысылаюць тэхнічных экспертаў. Як правіла, падобнае рашэнне азначае, што міжнародныя структуры не гатовыя прызнаваць выбары.

***— І ўсё ж: які сэнс закладзены ў рашэнне Трэцяй Венскай канферэнцыі?***

— Адназначна можна гаварыць пра тое, што наглядальнікаў, якія заўсёды выяўляюць пагрэшнасці у легітымным працэсе, не будзе. Будуць тэхнічныя эксперты, якія будуць вывучаць не толькі і не столькі ход так званых выбараў, колькі яго магчымыя наступствы. ▶

Заканчэнне на стар.2



## НАВІНЫ

■ **9 верасня ў фае Дзяржаўнага музычнага тэатра, вядомага як тэатр музкамедыі, можна пабачыць самую вялікую ў свеце фотакалекцыю зорак джаза.** Прывозіць яе польскі майстар Марэк Карэвіч. Выстава, якая паказвалася ўжо ў многіх краінах свету, называецца *This is Jazz* і ладзіцца ў межах Міжнароднай музычнай акцыі «Джаз-форум».

■ **Тэлефанаваць з Беларусі за мяжу з 10 верасня можна будзе наўпрост, без пасярэдніцтва тэлефаністак.** З гэтага дня аб'яднане «Белтэлекам» наладжвае аўтаматычны тэлефонны набор усіх краінаў свету. Схема такая: 8-гудок-10-код краіны-код горада-нумар тэлефона.

■ **Трагічны выпадак адбыўся ў памяшканні латвійскага міністэрства замежных справаў.** Адзін з ахоўнікаў будынка, разраджаючы табельны пісталет Макарава, выпадкова націснуў на курок, і куля патрапіла ў шыю другому паліцэйскаму. Чакаючы «хуткай дапамогі» для параненага, небарака-пісталетчык раптам выхапіў зброю і застрэліўся.

■ **Напярэдадні Алімпіяды ў Сіднэі сцякаюцца прастытуткі з усяго свету.** Па прагнозах гарадскіх сацыяльных службаў, за час алімпійскіх гульняў ім трэба будзе «задаволіць» каля 150 тысяч кліентаў. Чакаецца не толькі рост попыту на прастытутак, але і павелічэнне кошту на іх. Дарэчы, у Аўстраліі прастытуцыя не забароненая.

■ **Збор подпісаў за абвяшчэнне страляніны з рагаткі алімпійскім відам спорту распачаўся ў Іспаніі Асацыяцыяй самабытных відаў спорту Пірэнейскай паўвыспы.** Мэта акцыі – увесці гэты занятак у праграму летняй Алімпіяды 2004 года. Яе арганізатары даводзяць, што страляніна з рагаткі нават мае правілы правядзення спаборніцтваў (страляюць з адлегласці 50, 100 і 150 метраў, ёсць асабістыя і камандныя першынствы), і яе можна лічыць «афармленай спартовай дысцыплінай».

■ **Каля 30 чалавек атрымалі пашкоджанні ў аварыі, што адбылася ў сераду ў парыжскім метрапалітэне.** Цягнік сышоў з рэек на станцыі «Нотр-Дам дэ Ларэт», размешчанай у цэнтры французскай сталіцы. Найбольшую колькасць пацярпелых ратаўнікі выцягнулі з галаўнога вагона, які зваліўся на бок. Стан 10 з іх ацэньваецца ўрачамі як вельмі сур'ёзны.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА

Віцебск +20
Мінск +22
Магілёў +18
Гродна +21
Гомель +17
Брэст +19

## Курс наяўнага долара на «чорным рынку»



1030

# Тэхнічная місія будзе вывучаць усю сітуацыю

**Рыгор БУЯН**

Міжнароднага назірання за выбарамі не будзе – менавіта так ахарактарызавала галоўны вынік Трэцяй тэхнічнай канферэнцыі АБСЕ, якая прайшла 30-31 жніўня ў Вене, дэлегацыя беларускай апазіцыі. 31 жніўня лідэры АГП Анатоль Лябедзька і БНФ Вінцук Вячорка патлумачылі журналістам некаторыя нюансы Венскага форуму.

Міжнародных наглядальнікаў не будзе; у Мінску будзе працаваць толькі тэхнічная місія, якая будзе вывучаць ***усю*** сітуацыю на Беларусі, а не толькі звязаную з выбарамі. Больш за тое, непасрэдна ў дзень выбараў нават тэхнічных экспертаў у рэспубліцы не будзе.

А.Лябедзька нагадаў пра тое, што прадстаўнікі КПРФ ці «Вострава Свабоды» на выбарах у Беларусі будуць выступаць як міжнародныя наглядальнікі, але гэта не ёсць сістэма міжнароднага назірання. Аднак у Еўропе існуе толькі некалькі міжнародных інстытутаў, якія маюць права наглядаць за ходам выбараў і надзеленыя адпаведнымі паўнамоцтвамі. Анатоль Лябедзька лічыць, што ў Вене 80% галасоў атрымала апазіцыя, а 20% –улада. Аднак у любы момант такія суадносіны могуць змяніцца ў любы бок.

Вінцук Вячорка больш гаварыў «пра пашырэнне расійскага фактару ў беларускай палітыцы». Намеснік міністра замежных справаў Беларусі Сяргей Мартынаў разам з расійскім бокам, які выступаў пад шыльдай выканкама СНД і Міжпарламенцкай асамблеі СНД, зрабілі спробу «зарубіць» канчатковы дакумент – «Заключэнні і рэкамендацыі». Аднак гэтага зрабіць не ўдалося – дэлегацыя СНД і МПА СНД не падтрымалі пункт восьмы дакумента, у якім гаворыцца пра тэхнічны характар місіі.

В.Вячорка адзначыў «унутраную супярэчлівасць» дакумента; ёсць сцвярджэнне пра «прагрэс» па выкананні чатырох умоваў АБСЕ, і ў той жа час умовы для правядзення выбараў называюцца «незадавальняючымі». Усё гэта – вынік паспешлівага пошуку кампрамісу. Увогуле, каб не было звароту А.Фядуты, В.Абрамавай, У.Навасяда і Ліберальна-дэмакратычнай партыі з просьбай прыслаць наглядальнікаў, каб не пайшлі на выбары старшыня Народнай Грамады Мікола Статкевіч, экс-прэм'ер Міхаіл Чыгір – ніякай гаворкі пра прысыланне наглядальнікаў не было б увогуле.

Калі б міжнародная супольнасць у Вене прыняла рашэнне накіраваць наглядальнікаў на кастрычніцкія выбары, то ўжо зараз можна было б гаварыць пра прызнанне выбараў. Цяпер жа, па вызначэнні В.Вячоркі, сітуацыя знаходзіцца ўсё ў тым жа падвешаным стане. «Рэкамендацыі могуць быць перагледжаныя ў выпадку паляпшэння ці пагаршэння сітуацыі на Беларусі»,–- так гаворыцца ў выніковым дакуменце Венскай канферэнцыі. ■

# У Старавойтава адабралі крымскую дачу

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

Вярхоўны суд Украіны не задаволіў скаргу былога старшыні «Рассвета» Васіля Старавойтава, у якой ён прасіў не выконваць рашэнне беларускага суда аб канфіскацыі лецішча ў Крыме. Гэта азначае, што дачу хутка прададуць, а грошы перавядуць на рахунак «Рассвета», як і пастанавіў Кіраўскі раённы суд Магілёўскай вобласці.

Так атрымалася, што гэтую дачу Старавойтаў пабудаваў у Кіраўскім раёне Крыма. Такім чынам цяпер да аднолькавай назвы дадаецца і супадзенне ў лёсе – і на Магілёўшчыне, і ў Крыме ўсю маёмасць былога старшыні «Рассвета» канфіскавалі. Пад «раскулачванне» трапілі таксама аўтамабіль, грошы, акцыі гаспадаркі, мэбля, бібліятэка, радыё і тэлеапаратура. Нават дом у Мышкавічах, дзе жыве В.Старавойтаў, спачатку абвесцілі калгаснай маёмасцю, але потым прызналі, што гаспадаром дома ўсё ж павінен лічыцца сам В.Старавойтаў. «Гэта было б канчатковым дзікунствам, калі б і дом адабралі», – кажа былы старшыня калгаса.

Рашэнне ўкраінскіх суддзяў падтрымаць калегаў беларускіх ён успрымае стаічна. Васіль Старавойтаў мяркуе, што ўкраінцам давялося «разабрацца» з ягоным лецішчам, каб не псаваць адносіны з А.Лукашэнкам. У лісце намесніка старшыні Вярхоўнага суда Украіны П.Шаўчука, нядаўна дасланым у Мышкавічы, пералічаны цэлы набор прычынаў, па якіх ягоную скаргу можна было не задаволіць. З гэтага дакумента былы старшыня «Рассвета» так і не зразумеў, якая дакладна прычына была выкарыстаная. Ці то, што ён не прадставіў нейкіх дакументаў, ці то, што сам не прысутнічаў на разбіральніцтве скаргі. «Дык мяне ніхто і не запрашаў»,—разводзіць рукамі В.Старавойтаў.



Сваю дачу ён узгадвае са шкадаваннем. Гэта чатырохпакаёвая кватэра ў доме на дзве сям'і ў пасёлку Абрыкосаўка, пад Феадосіяй, з чатырма соткамі сядзібы. «Да мора ажно 20 кіламетраў, затое крымскае паветра для маіх лёгкіх вельмі карыснае»,– кажа былы вязень аршанскай калоніі. В.Старавойтаў адпачываў там толькі два разы, усяго па некалькі дзён, але тыя дні запомніў як найлепшыя ў жыцці. Гэтае крымскае паветра ён перш за ўсё і шкадуе, а не страчаных грошай. Калі будаваў дачу ў пачатку 90-ых гадоў, затраціў на будоўлю недзе тысяч 10 савецкіх рублёў, а колькі цяпер яна каштуе, дакладна сказаць не бярэцца. «Можа тысячы тры долараў, але не больш, бо цяпер у Крыме ўсё, што не на ўзбярэжжы, каштуе танна», – кажа Васіль Старавойтаў. Гэтак жа не ведаюць, колькі грошай заробяць на продажы старавойтаўскай дачы, і ў «Рассвеце». А ў Кіраўскім раённым судзе Магілёўскай вобласці кажуць, што грошай чакаць яшчэ прыйдзецца доўга. Спачатку дачу павінны ацаніць, а потым прадаваць па аб'яве ці на аўкцыёне. 75% атрыманых сродкаў дастанецца «Рассвету», прыкладна 20% — беларускай дзяржаве, а астатнія застануцца ва Украіне ў пакрыццё выдаткаў. ■

# Фантомы робяць выбар

**Рыгор БУЯН**

**З 18 афіцыйна зарэгістраваных на Беларусі партыяў 11 вырашылі ўдзельнічаць у выбарах дэпутатаў палаты прадстаўнікоў.**

Аднак толькі пра дзве з іх — Партыю камуністаў Беларускую і Ліберальна-дэмакратычную партыю – мог дзе-нідзе пачуць наш абывацель. Назвы астатніх дзевяці партыяў звычайнаму чалавеку ні пра што не гавораць. Гэта фантомы, якія ствараліся ў свой час пад аднаго канкрэтнага чалавека. Глядзець у рот уладам і балатавацца ў дэпутаты – на сённяшні момант гэта іхні адзіны шанец узабрацца на «вяршыню» палітычнага Алімпа. Бо пры свабодных дэмакратычных выбарах гэтым карлікам нічога не свеціць.

Экскурсію ў кунсткамеру беларускіх карлікавых партыяў, якія прэтэндуюць на месцы ў «палатцы», мы пачнем з Камуністычнай партыі Беларусі. Яна вылучыла ажно 61 прэтэндэнта на дэпутацкія крэслы. Гэтая партыя, узнікшая на хвалі расколу партыі камуністаў у канцы 1996 – пачатку 1997 гадоў, складаецца ў пераважнай большасці з «калякінцаў», пасля рэферэндума 96-га года выгнаных з ПКБ за здраду. Цікава, што першы сакратар Цэнтральнага камітэта КПБ Віктар Чыкін, які адначасова займае крэсла старшыні Нацыянальнай Белдзяржтэлерадыёкампаніі, не збіраецца прамяняць БТ на Авальную залу ў Доме ўрада. У палаце хоць і добра, спакойна, ды хто ведае, колькі ёй наканавана праіснаваць? А на месцы кіраўніка Дзяржтэлерадыёкампаніі ён будзе мець гарантаваны хлеб і... да хлеба нешта.

Пралукашэнкаўская Беларуская патрыятычная партыя (БПП) вылучыла 16 дэлегатаў. Апрача старшыні БПП генерала Анатоля Баранкевіча, вядомых імёнаў сярод прэтэндэнтаў на дэпутацкія крэслы няма. Ды і навошта яны, калі ўсе хліпкія сілы БПП будуць скіраваныя на перамогу адстаўнога генерала, намесніка дырэктара Камароўскага рынку?

Рэспубліканская партыя працы і справядлівасці, якая існуе на базе Таварыства інвалідаў па зроку (узначальвае яе страшыня таго ж таварыства Анатоль Нятылькін), вылучыла 17 кандыдатаў. Трэба разумець, інваліды па зроку ад БелТІЗ таксама збіраюцца завесці беларусаў у светлую будучыню.

Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя народнай згоды і Рэспубліканская партыя стварылі надпартыйны блок «Адзінства». Гэта азначае, што ўсе партыі, якія ўвойдуць у блок, захоўваюць самастойнасць, аднак рашэнні, што будуць прымацца разам, будуць насіць «абавязкова-рэкамендацыйны характар». Праўда, практыка паказвае, што ўсе такія аб'яднанні – аднадзёнкі, якія распадаюцца адразу пасля выбарчай кампаніі.

Партыя народнай згоды вылучыла 20 кандыдатаў у дэпутаты. Дарэчы, рэальнае стаўленне «народазгодаўцаў» да выбараў у палату прадстаўнікоў паказвае той факт, што замест выбыўшага старшыні партыі Леаніда Сечкі з'езд не абраў новага лідэра. «Мяне даўно абралі б старшынёй партыі, але я не пагадзіўся, бо новы старшыня павінен быць дэпутатам палаты прадстаўнікоў», – заявіў в.а. старшыні партыі Сяргей Ярмак.

Рэспубліканская партыя на чале з Уладзімірам Белазорам, якая збірала з'езд у мінулыя выхадныя, вылучыла ажно 31 кандыдата ў дэпутаты. Беларуская сацыяльна-спартыўная партыя зарэгістравала дзве ініцыятыўныя групы...

Аграрная партыя, якую ўзначальвае галоўны рэдактар «Народнай газеты» Міхаіл Шыманскі, толькі збіраецца вылучыць кандыдатаў у гэты ўік-энд. Але панядзелак – апошні дзень рэгістрацыі, таму аграрыі могуць і не паспець. Для падстрахоўкі каля 20 аграрнікаў ужо паспелі вылучыцца кандыдатамі шляхам збору подпісаў і ад працоўных калектываў. Між тым, Аграрная партыя ўжо не тая, што пры Сямёну Шарэцкім і Мечаславе Гірыцю. Менавіта ім у 1995 годзе ўдалося стварыць у Вярхоўным Савеце 13-га склікання фракцыю прыкладна з паўсотні «штыкоў». Але пасля разгону Вярхоўнага Савета і фактычнага распаду партыі яна ператварылася ў «тусоўку» работнікаў сельскагаспадарчага комплекса без яўных перспектываў быць абранымі нават у палату.

У якасці высновы зазначым: якія б грандыёзныя планы партыі-«карлікі» ні будавалі – усё гэта пшык. Лідэры партыяў-фантомаў яшчэ могуць прайсці ў палату прадстаўнікоў, аднак здабыць па некалькі месцаў у палаце ім будзе праблематычна. ■

# Дзень вайсковай славы – 8 верасня

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

Урачыстасці на Дзень беларускай вайсковай славы ў Мінску пройдуць у тым аб'ёме, як гэта і планавалася ў пададзенай БНФ да Мінгарвыканкама заяўцы. Пра гэта на ўчарашняй прэс-канферэнцыі заявілі заяўшчыкі святочных мерапрыемстваў Віктар Івашкевіч і Юры Хадыка. Такім чынам, 8 верасня а 18-ай гадзіне адбудзецца ўскладанне кветак памяці (не толькі тых, хто загінуў у Другой сусветнай вайне, а наогул «усім, хто змагаўся за Бацькаўшчыну» ) да помніка Перамогі, потым – шэсце па праспекце Скарыны да сквера Янкі Купалы, дзе маюць быць наладжаныя тэатралізаваныя шоу і камерна-народныя спевы.

Гэта – вынік досыць няўцямнай сустрэчы з намеснікам старшыні сталічнага гарвыканкама Міхаілам Пятрушыным, які цяпер будзе займацца дазволаміі-недазволамі масавых вулічных акцыяў замест Віктара Чыкіна. Мэрскі чыноўнік спачатку пасылаў праводзіць свята на Крапіўніцкае поле, месца Аршанскае бітвы, хоць, як сказаў Юры Хадыка, паўнамоцтвы Мінгарвыканкама абмяжоўваюцца «Мінскай кальцавой дарогай». Але потым давёў, што ўскладанне кветак і на баўленне часу ў гарадскіх скверах адмысловых санкцыяў не вымагаюць. Гэта можна лічыць вусным дазволам на правядзенне акцыі, на якую арганізатары мяркуюць сабраць некалькі тысяч чалавек. ■

# Канфлікт у прадпрымальніцкім саюзе

**Юрась ХМЯЛЬНІЦКІ**

Нязменнаму кіраўніку Беларускага саюза прадпрымальнікаў (БСП) Уладзіміру Карагіну пагражае адстаўка.

6 верасня на савеце БСП два намеснікі У.Карагіна плануюць узняць пытанне пра ягонае зняццё з кіраўнічай пасады. Раздрай у прадпрымальніцкім саюзе ўзнік не з-за таго, што Уладзімір Карагін вылучаецца кандыдатам у дэпутаты палаты прадстаўнікоў. Усё б нічога, калі б не ішоў прэзідэнт БСП на выбары ад дастаткова адыёзнай Ліберальна-дэмакратычнай партыі.

Уладзіміру Карагіну паставілі ўльтыматум. «Альбо я адмаўляюся ад вылучэння, альбо я сыходжу з пасады прэзідэнта грамадскага аб'яднання Беларускі саюз прадпрымальнікаў», – гаворыць У.Карагін. Аднак прэзідэнт БСП збіраецца пазмагацца сам за сябе, таму што для яго ўзнікшае пытанне – «прынцыповае». ■

**ІНТЭРФАКС**

# Центральные банки распродают золото

Продажа золота центральными банками 13 стран мира в 1999 году достигла самого высокого за последние 30 лет уровня, сообщает агентство Блумберг со ссылкой на данные аналитиков компании *Merrill Lynch & Co*. По их мнению, тенденция к росту продаж в ближайшее время продолжится. Как ожидается, центробанки Австрии, Голландии, Швейцарии, Великобритании, Бразилии, Канады, Чили, Эквадора, Германии, Иордании, России, Уругвая и Зимбабве продадут в текущем финансовом году (30 сентября 1999 года - 30 сентября 2000 года) 696 тонн золота в слитках. Доля пяти европейских центральных банков из общего объема составит 465 тонн.

В 1989 году Бельгия положила начало процессу продажи крупных партий золота центральными банками, объявив о продаже 127 тонн золота из своих запасов. С тех пор цены на золото упали на треть и в понедельник на торгах в Нью-Йорке цена достигла отметки в $279 за унцию. По мнению экспертов, продажи золота центральными банками на данный момент уже превысили 450 тонн, поставленных в прошлом году на мировой рынок Южной Африкой, крупнейшим мировым производителем этого металла. Как считают аналитики, увеличение продаж золота является следствием изменения доктрины банков, превращающихся из накопителей золота в его продавцов. ■

АФИ

# Норвежский адмирал уверен, что столкновения не было

Норвежский вице-адмирал Эйнар Скорген, принимавший участие в спасательной операции на подлодке «Курск» в Баренцевом море, обвинил российских военных в предоставлении недостоверной информации. Об этом он сообщил в интервью германскому еженедельнику «Шпигель». «Если бы я не установил связь с командующим Северным Флотом адмиралом Вячеславом Поповым, которого я хорошо знаю, нашу операцию было бы провести довольно трудно», – сказал он. По словам норвежского военачальника, «в зале слежения сидели русские, которые на экранах наблюдали за каждым движением наших водолазных групп». Э.Скорген сказал также, что норвежские водолазы не имели права осматривать носовую часть корпуса. При этом он подчеркнул, что для проникновения в лодку у норвежских водолазов не было необходимого оборудования. Отвечая на вопрос, что же в действительности произошло с подлодкой, вице-адмирал сказал: «Ясно, что было два взрыва». По его мнению, высказывания российского министра обороны Игоря Сергеева о столкновении «Курска» с другим кораблем «нельзя принимать всерьез». «Мы тщательно проанализировали все данные акустиков и не нашли никаких частот, типичных для столкновения. Исходя из того, что получил наш находившийся неподалеку разведывательный корабль, речь в обоих случаях идет о несомненных взрывах. Но до сих пор неясно, чем был вызван первый из них», – отметил он. Второй взрыв, считает Э.Скорген, был чрезвычайно мощным, намного сильнее детонации торпед. По его мнению, это был взрыв водорода. ■

